Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 11 лютага 1933 г.

№ 4.

Год 1-шы


# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў
у буднія дні ад 10 да 12 г. раніцай.

Падп... з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

выходзіць двойчы ў месяц.

Цана асобнага нумару 20 гр.


## Пазнавайце Родны Край!

Як толькі настае лета, у кожнай краіне бачым адно характэрнае зьявішча: моладзь, якая ад мінулае восені—у працягу ўсяе зімы і раньняе вясны—была зьвязана школьнай навукай і не магла скрануцца з мейсца, масава пускаецца ў падарожу па роднай зямлі, адведываючы ўсе мяйсцовасьці, якія адзначаюцца ці то сваім хараством, ці гістарычнымі памяткамі, ці выдатнай роляй у культурна-нацыянальным або гаспадарчым жыцьці. Такім парадкам школьнікі, якія вывучалі сваю Бацькаўшчыну з кніг, маюць магчымасьць сваімі вачыма пабачыць тое, аб чым казаў вучыцель ды кніжка,—могуць запраўды-ж пазнаёміцца з жыцьцём свайго народу і яго творчай працай.

Такое імкненьне да падарожнічаньня ў працягу летніх вакацыяў бачым і ў Польшчы. Польскія школы — асабліва на Беларускіх Землях—арганізуюць групавыя экскурсіі вучашчыхся ў цэнтры польскае культуры, каб паказам замацаваць школьнае ўзгадаваньне тутэйшае моладзі (—не толькі польскае!) у польскім нацыянальным духу. І едуць часта нашыя-ж беларускія сыны й дачкі ў Варшаву, Кракаў, Пазнань або Гдыню, хаця найбліжэйшай Бацькаўшчыны свае зусім не ведаюць...

Нам думаецца, што гожа было-б тут прыпомніць ведамую польскую пагукаўку: „Cudze chwalicie, swego nie znacie, — sami nie wiecie, co posiadacie". Бо-ж для моладзі ў нашым Краю—не толькі беларускае, але і ўсіх іньшых нацыянальнасьцяў,—першым абавязкам ёсьць пазнаць іменна гэты Край, з каторым яе зьвязваюць тысячы векавечных вязяў.

Віленская Беларуская Гімназія ў мінулыя гады запачаткавала вучнёўскія экскурсіі ў розныя цікаўныя мясцовасьці Заходняе Беларусі. Гэтак адбыліся падарожы ў Наваградак і на возера Сьвітэзь, а таксама на возера Нарач. Думаем, што і пасьля „upaństwowienia" кіраўніцтва гімназіі не кіне распачатае акцыі.—Але тут хочам зьвярнуць увагу нашага грамадзянства на неабходнасьць пашырэньня гэтае акцыі.

Паколькі справа датычыць Вільні, дык да краязнаўчых экскурсіяў павінны прыступіць у першую чаргу беларускія студэнты. Маем тутака ажно тры беларускія студэнцкія арганізацыі: Беларускі Студэнцкі Саюз, карпарацыю „Скарынія", Студэнцкае Т-ва Беларусаведы. Да іх і зварачаемся з заклікам: арганізуйце краязнаўчыя экскурсіі—пазнавайце Родны Край!

А пасьля Вільні трэба зьвярнуцца да нашае моладзі на правінцыі—моладзі вясковае і мястэчковае. Для яе найвялікшую прыцягаючую сілу мае, пэўне-ж, адвечная сталіца нашая—Вільня, дзе старадаўныя будынкі цудоўнага хараства так красамоўна апавядаюць аб слаўнай мінуўшчыне беларускае культуры, дзе і сяньня б'ецца сэрца беларускага нацыянальнага адраджэньня, дзе працуе рад беларускіх культурна-нацыянальных арганізацыяў і ўстаноў, а сярод апошніх — Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча. Ёсьць на што паглядзець, чым асьвяжыць душу! І да Вільні павінны перад усім кіравацца экскурсіі з нашых вёсак і мястэчак.

Чытаючы гэтыя радкі, шмат хто пэўне пакруціць галавой ды скажа: добра то яно добра, але — скуль узяць грошы на гэткую падарожу, на білеты чыгуначныя,—дзе прытуліцца на-нач? На гэта дамо просты і ясны адказ:

Ніякіх грошы на дарогу, апрача на харчы, не трэба: ісьці можна пехатой, а колькі больш уражэньняў дасьць кожнаму гэткая падарожа, чым падарожа ў душным вагоне, можа сказаць хаця бы наш паэта Міхась Машара, які так прыгожа апісаў сваю вандроўку па Дзісьненшчыне ў мінулую восень (гл. ў гэтым нумары). Хто йдзе на вёску, той знойдзе начлег у слаўных сваей гасьціннасьцяй беларускіх сялян. А ў Вільні —сьпісаўшыся загадзя з Т. Б. А. ці іншай культурнай арганізацыяй—улетку аб начлег не трудна: ёсьць тут і спэцыяльныя начулішчы, з'арганізаваныя куратарыюмам, дый пусткай стаяць беларускія інтэрнаты, якія хіба-ж не адмовяць прытулку падарожнікам.

Мы закранулі гэту справу цяпер, узімку, калі ні аб якіх вандроўках нельга й казаць, з тэй думкай, каб беларуская моладзь

загадзя падгатавалася да летніх экскурсій, каб апрацавала сабе маршруты і пляны, каб і сякі-такі грош на лета сабе прыванасіла. Бо не пара будзе займацца ўсім гэтым тады, як прыйдзе лета, як сонца і прастор родных палёў пачне з непераможнай сілай вабіць нас да сябе. І калі расчыняцца дзьверы школ—ідзеце ўсе, хто можа, пазнаваць Родны Край!

# Падарожа... на месяц,

## ці—на парозе „пятае цывілізацыі".

Сучаснаму чалавеку, азброенаму нячуванымі датуль спосабамі камунікацыі, робіцца неяк цесна і нудна на Зямлі. Калі на аэрапляне ці цэпэліне можна ў некалькі дзён абляцець навакол зямное кулі, калі на ёй няма ўжо недаступных для чалавека-лятуна вяршынаў ані наагул адлежнасьцяў, калі йдзе ўжо гутарка аб „плянэтарных" плянах і рэформах на Зямлі, дык сама сабой узьнімаецца думка, ці ня можна на гэтых магутных, як кажуць амэрыканцы, „пажыраце-лях прастору" сягнуць далей — вырвацца з „ваколіцаў Зямлі" наагул, наладзіць камунікацыю хаця-б з найбліжэйшымі да Зямлі нябеснымі целамі?

Трэба аднак-жа сьцьвярдзіць, што думка аб гэтым мела зусім фантастычны характар датуль, пакуль ня быў знойдзены зусім новы тып матору, ці рухавіка, які можа пасоўваць лятучую машыну ў беспаветраныя прасторы. І вось, толькі нядаўна такі матор вынайшоў адзін нямецкі хімік, палажыўшы гэтым вынаходам падставу дзеля новае, абяцуючае не новыя нячуваныя дасягненьні-эры ў цывілізацыі чалавецтва.

Ведамы расейскі географ Мечнікаў, брат слаўнага біолёга, дзяліў калісьці — ў палове мінулага сталецьця — гісторыю цывілізацыі на тры перыяды: рачнае цывілізацыі, марское і акеанскае. Можна прадоўжыць далей яго клясыфікацыю ў нашыя дні. Мы жывем у перыядзе заняпаду акеанічнае цывілізацыі. Яркім доказам гэтага зьяўляецца заняпад наймагутнейшых сусьветных дзяржаў—„валадароў акеанаў", як Англія, з іх непераможнымі яшчэ нядаўна надводнымі і падводнымі флётамі—перад новым царом вайны: валадаром паветра, лятаючым браняносцам—аэраплянам. Мы жывем у пару расквіту „чацьвертае цывілізацыі" — паветранае. Але, як бачым заўсёды ў-ва ўсіх галінах бязьмежнага жыцьця і разьвіцьця, у пару панаваньня чарговага валадара нарадзіўся ўжо, слабы і бясьсільны пакуль што, яго ма-лы наступнік. Гэты беспаветраны новы маторсільнік, вынайдзены немцам, і зьяўляецца наступнікам сучаснага „караля паветра" — аэрапляну ці цэпэліна; новы рухавік адразу паставіў нас на парозе новае — „пятае цывілізацыі", каторую, па аналёгіі, трэба будзе назваць хіба „эфірнай" ці міжзорнай.

Ня можам тутака ўваходзіць у падрабязнае апісаньне новага тыпу матору; скажам толькі, што ён пабудаваны на прынцыпе ракеты, ведамае ўсім, хто рабіў яе сам ці бачыў, як пускаюць яе пры розных ігрышчах на паветры—так званых фэйерверках. Рух ракеты налягае на тым, што на адным (ніжнім, больш цяжкім) канцы яе, які набіты выбуховай мешанінай, вызваляюцца пры за-

Міхась Машара.

# Падарожа.

*Прысьвячаю Пётры Сергіевічу.*

I.

Міхась, Міхась — Пятрусь чакае!
У рукі кій і рушма ў пуць.
А вандраваць па родным краю —
Ці-ж ёсьць прыемней што-нібудзь?

Хоць ад Таболаў да Стаўрова
Кавалак добры — вёрст з капу,
Ды нам, Міхась, з табой ня нова
Ківаць вяртовому стаўбу.

Іду... Мінаю нівы, вёскі...
Шагі разгоністы мае.
Дарогаўсказы лічуць вёрсты,
А тэлеграфны дрот пяе.

Дарога звыклая: бярозы
І жаўталісьці па баках;
У душы настрой такі прыгожы,
І птушка-радасьць у грудзёх.

Іду... Падходжу да Дзісенкі
І да Шаркоўшчыны пры ёй.
Навокал тут двароў, засьценкаў —
Адзін другога прыгажэй!

II.

Шаркоўшчына — назоў мястэчка,
Дзе многа хат і дзьве царквы,
Што на сябе глядзяць праз рэчку
Спаміж садоў, як дзьве сястры.

Есьць „Постэрунэк," „Страж огнёва"
(басак і бочкі дзьве з вядром).
Есьць рэстаран-карчма, вядома
Усім паўпанкам і паном.

Каапэратыў, аптэка, бойня
І пляц базарны пасярод,
Дзе раз у тыдзень надта ройна,
Гразі-ж і бруду — ўсюды ўброд!

І людзі ёсьць: — аптэкар, пісар,
Кудлаты поп і поп гладкі,
Пан войт, „комэндант" і вучыцель,
Усё кручочкі і кручкі.

Жыдоў шмат, беларусаў крыху,
А рэшта ўсё — „тутэйшы" люд,
Такі загнана-сумна-ціхі,
Як ўсё жыцьцё ціхое тут,

паме вялізарчыя колькасьці газаў, якія вытвараюць вялізарны ціск, папіхаючы ракету наперад. Каб даць паняцьце аб тым, з якой хуткасьцяй можа ляцець такая ракета, зробім параўнаньне яе з аэрапляням. Калі найвышэйшы рекорд хуткасьці пералёту з Амэрыкі ў Эўропу не пераступіў яшчэ 4 дзесяткоў гадзін, дык ракета гэты прастор можа пераляцець у дзесяткі мінутаў. Але—якая—рэволюцыйнае значэньне самага помыслу новага вынаходу ня ў гэтай хуткасьці лёту, але, як сказана, у тым, што лёт машыны можа адбывацца ў пустаце (тачней: у эфіры, які, паводле абаснаванае думкі вучоных, напаўняе ўвесь сьвет) — без паветра, якое, як кожным зразумее, абавязкова патрэбна для аэраплану, каторы трымаецца і пасоўваецца ў паветры таксама, як параход, ці падводная лодка, у вадзе.

І вось, на нашых вачох паўтараецца цяпер з новым сільнікам-ракетай тое-ж самае, што мела месца за памяцяй усіх не старых навет людзей з аэрапляням, які ў працягу нейкіх 3—4 дзесяткоў гадоў з дзяцінае забаўкі—паветранага зьмея—стаўся наймагутнейшай у сьвеце прыладай паветранае камунікацыі і вайны — каралём паветра. Над новым маторам, адчыняючым новыя нячуваныя магчымасьці, закіпела праца ў-ва ўсіх дзяржавах, асабліва ў Намеччыне. Робяцца спробы, досьледы, шукаюцца найлепшыя хімічныя выбуховыя мешанкі, робяцца і нускаюцца ракеты. Але дагэтуль яшчэ не рабілі спробаў з лётам чалавека. Эмонтавалі ўжо некалькі тыпаў ракетнага аўтамабілю, які запраўды-ж разьвіў такую вялізарную шыбкасьць, што гэта каштавала жыцьця ўжо другому вынаходцы. Але цяпер нямецкі інжэнэр Рудольф Нэбэль працуе (некалькі год) над будовай ракеты, якую мае сам выпрабаваць у руху. Усе пляны ягонага саналёту гатовыя. Грошы дае на будову Магдэбург, роднае места вынаходцы, і розныя навуковыя таварыствы Няменчыны. Ракета разьлічана на аднаго лятуча, якім і мае быць сам вынаходца. Першую падарожу новы самалёт мае зрабіць... на месяц!

Праўда, гучыць гэта цяпер для нас цалкам фантастычна. Ня можа быць сумліву, што адважны піонер згіне на сваім вагнявым калі на „шляху да зор". Але гэта-ж—вечны шлях чалавека: новая думка — ахвярная адвага—трыумф перамогі.

Як ні дзіўна і фантастычна гэтая падарожа, аднак навукова-практычныя падставы яе чалавек ужо мае цвёрдыя.

А таму прынцыпова адкідаць пасьпеху сьмелае думкі ня можна.

---

# Гаспадарчы аддзел.

## Аб прыгатаўленьні кармоў для жывёлы.

(Працяг).

Канцэнтраваныя або сытныя кармы. Да сытных кармоў належаць рознага роду зярняты, вотрубы, клінцы (макуха, жмыхі) і іншыя розныя адпадкі расьліннага або жывёльнага паходжаньня.

Зернявыя кармы з увагі на багацьце кармавых складнікоў і лёгкую страўнасьць зьяўляюцца пры добрай гадоўлі амаль абсалютна неабходным дапаўненьнем да кармоў

---

III.

А за ракой—касьцёл чырвоны,
Дзе ксёндз, як звыкла, — патрыёт.
Сьвятковым днём яго з амбоны
Хрышчоны слухае народ.

І часам плачуць, плачуць бабы,
Як раскрычыцца дабрадзей
(Яны на вочы, кажуць, слабы,
Ды пэўна й розум не мацней!)

Шчэ ёсьць нагоднік аптыміста,
Якога знаў з даўна, даўна
(Выбач мне, дзядзька арганісты:
Як чалавек, ты надта слаўны).

Казюк — ужо зусім ня тое:
І песыміст, і дон-жуан,
Эстэт з сумуючай душою,
У жыцьці — вандруючы цыган.

IV.

Ды ўсё ня тым тут знамяніта,
Я не аб тым сьпяваю так:
Пакінаў сьлед тут наш „піта",
Тут жыў і мучыўся Сваяк.

Тут „сонцу ўзгорнаму" маліўся
У заўсёднай спрэчнасьці з сабой.
Тут сон яму прыгожы сьніўся,—
Пэнхэю бачыў над ракой.

Шукаў надзею у бязьвер'і,
Мадзеў з раздвоенай душой:

То сурдаць Бога бунт бяз меры,
То зноў пакора і спакой.

Тут апявала яго ліра
Увесь боль утоптаных у гразь,
У сьмяротным бульце ныла, ныла
Яго душа і ў песьнях лілась.

Сваяк, Сваяк—зьняволеных, бязлікіх!
Я разумею боль тваю!
І я — малы,
Як ты — вялікі
Так сама бунт
І боль —
Сьмяротны боль ў грудзёх нашу.
Мо' іншы крыху?
І мо' другі?
Мой бунт — не філёзофа-мніха;
Мой боль — кіпуча малады.

Але і я, як ты, гару
І сьмерць ў грудзёх, як ты, нашу.

V.

Але пара нам разьвітацца..
Бывай, Шаркоўшчына, бывай!

грубых. Найлепей жывёла выкарыстоўвае зернавыя кармы ў стане раздробленым ці раздушаным; толькі адзін авёс здаровым і маладым коням радзяць даваць цэлым. Каб зярняты аўса добра пераражоўваліся, даюць яго коням амаль заўсёды зьмешаным з грубаю сечкаю. У грубай сечцы зярняты аўса кепска вымешваюцца і жывёла можа іх выбраць, а сечку пакінуць. Дзеля гэтага сечку часамі лёгка скрапляюць вадою; тагды зярняты прыліпаюць да сечкі, і жывёла іх выбраць ня можа.

Дзеля драбленьня зярнятаў існуе шмат машынаў і прыладаў. Драбленьне зярнят можна замяніць мачэньнем іх у халоднай вадзе; пры гэтым трэба даваць гэтулькі вады, каб разбухаючыя зёрны цалком яе ў сябе ўвабралі, і гэтым самым усе пажыўныя складнікі засталіся-б у зярнятах.

Спасярод збожжаў найболей пашыраным зернавым кормам ёсьць авёс, асабліва для коней. Даецца авёс і іншым жывёлам у маладым веку і заводным у часе карыстаньня імі. Пры кармленьні аўсом трэба мець на ўвазе, што сьвежы авёс, калі навет ён і добра сабраны, ёсьць у большай ці меншай меры шкадлівы. Добра сабраны і не заражаны хваробамі авёс можа быць ужыты на корм толькі праз месяц. Калі-ж авёс не ўдалося добра сабраць, то тагды трэба яму даць даўжэйшы час на выпачэньне і ўжываць, як корм, не раней двух месяцаў пасьля збору. Авёс трэба даваць заўсёды пасьля напаеньня коней, а не наадварот.

Ячмень таксама добры кармавы прадукт, асабліва для жывёлы, якая пастаўлена на адкорм. Сала сьвіней, якія былі кормлены ячменем, мае найлепшы смак. Ячмень часьцей даецца жывёле раздробленым або мочаным. Мочаны ячмень трэба зараз-жа скарміць, бо лёгка псуецца.

Жыта, дзякуючы сваёй клейкасьці, спрычыняецца тварэньню ў страўным канале кепска ператраўленых або зусім не ператраўленых кавалкаў корму, што выклікае колькі, уздуцьце жывата і г. д. Каб пазбавіць жыта, наколькі можна, дрэнных кармавых уласьцівасьцяў, яго перад падачай коням трэба мачыць у працягу 12 гадзінаў. Да жытняга корму трэба жывёлу прызвычаіць, даючы спачатку невялікія порцыі і з бегам часу павялічваючы іх. А лепш за ўсё — гэта зусім не карміць коняў жытам. Дзеля таго, што жыта ў страўным праходзе робіць зацьвярджаючы ўплыў, яно зьяўляецца вельмі добрым кормам дзеля парасят-сысунцоў, бо ў вапотніх вельмі лёгка робіцца ў жываце развальненьне. Асабліва карысна даваць парасятам жыта падпражанае.

Грэчка, спажываная коньмі ў большых колькасьцях, выклікае ў іх скурныя хваробы; пры адкорме ж сьвіней яна не ўступае ячменю.

Льняное семя, гатаванае, зьяўляецца вельмі пажыўным і добра ўплываючым на здароўе жывёлы дадатковым кормам. Асаблівае значэньне мае развaранае льняное семя для аджыўленьня маладняку, як дапаўненьне або замена мацярынскага малака. Таксама карысна даваць пойла з льнянага семя для жывёлы папраўляючаеся пасьля хваробы. Для належнага разварэньня 100 грамаў льнянога семя бярэцца 1½ літра вады.

(Канец будзе).

С. А.

---

Няхай тваім тутэйшым сьняцца
Другія дні і сьветлы май.

А нам, Міхась, далей ў дарогу!
На лозы кінем сум ціхі,
Пакуль ў грудзёх няма зьнямогі,
Пакуль разгоністы шагі.

За вёскай зноў вітаю вёску
І пералескі і лясы,
І івак вузкія палоскі,
І прыдарожныя кусты.

А то спаткаеш — хаты, хаты...
Па полю селі хутары.
І від іх новы худаваты,
Як навародак без пары.

Там хата ёсьць — ня знайдзеш пуні,
Там пуня ёсьць, — хлява няма.
Як зьмеcтам бедны й шэры будні
Такіх сыноў тваіх, Зямля!

VI.

Адна Дзісенка ўсьцяж прыгожа,
Усьцяж разгоніста яна.
Ніхто зьмяніць яе ня можа:
Ідзе таксама, як ішла.

То ад дарогі адбяжыцца
І закрывуліць між палёў.
То зноў пакорная лажыцца
У цень альховую гаёў.

То выпне крутае калена
І апярэжыць гай—луку,
То завірыцца па каменьні
І з плюскам нікне ў лазьніку.

На кругазоры лес сьцяною,
Як рама родных абразоў.
Сягоньня ён у жоўтай зброі,
І нейкі сум па ім прайшоў.

Іду... і новыя настроі
Прыгожай восені лаўлю
І кожнай пройдзенай вярстою
Душу дасыта накармлю.

VIII.

Вось там рунеючага жыта
Абшар вялізны і даўгі,
І так ірдзяцца сакавіта
Усе пагуркі і лагі.

Як бы абраз які вясновы —
Такі вясёлы і жывы,

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Зьмена на становішчы віленскага ваяводы.** Былы віленскі ваявода Бэчковіч выехаў 6-га лют. ў Рыгу на становішча паўнамочнага пасла Рэчыпаспалітае пры латвійскім урадзе. На разьвітальным раўце, які праводзіла пасла Бэчковіча Вільня, былі прысутныя і некаторыя прадстаўнікі беларускага грамадзянства, каб выразіць падзяку п. Бэчковічу за яго прыхільныя і карэктныя адносіны да беларускіх культурных устаноў.

Пакуль ня прыедзе новы, назначаны ўжо ваявода Яшчолт (былы ваявода ў Лодзі), абавязкі яго спаўняе віцэ-ваявода Янкоўскі.

Весткі, якія ідуць аб ваяводзе Яшчолту з Лодзі, дзе ваяводзкай уладзе трэба лічыцца з вельмі сільнай нямецкай і жыдоўскай меншасьцяй, а так сама ўжывацца з соцыялістычным магістратам, кажуць аб тым, што былы лодзкі ваявода стаяў на вышыні гэтых цяжкіх заданьняў. Дык трэба спадзявацца, што і ў нашым краі новы ваявода, каторы некалі тут жыў і працаваў, патрапіць орыентавацца ў зложаных меншасьцёвых адносінах, ня крыўдзячы асноўнае масы тутэйшага насяленьня—беларусаў.

**Суд над дзеячамі Т. Б. Ш.**—4 лютага закончыўся ў Віленскім Акружным Судзе працэс групы дзеячоў Таварыства Беларускага Школы: Ф. Стэцкевіча, Р. Шырмы, Пяткевіча, Саковіча, Цэраха і Скуркі, якіх абвінавачывалі ў супрацоўніцтве з камуністычнай партыяй. Пракурор, паклікаючыся на цэлы рад правакацыйных камуністычных лістовак, якія абвяшчалі ТБШ „сваім", ды на чысьленыя стацьці камуністычнае прэсы, трэбаваў пакараньня ўсіх падсудных.

Аднак, Суд ня прызнаў доказы пракуратуры слушнымі ў адносінах да Стэцкевіча, Шырмы і Пяткевіча і апраўдаў іх. Засуджаны: Саковіч ды Цэрах — на 3 гады вастрогу кожны з залічэньнем адседжанага часу $1^{1}/_{2}$ году Цэраху і 1 году Саковічу; Скурка ж—на 2 гады з залічэньнем 4 адседжаных месяцаў.

У матывах судовага прыгавору сказана, што, як відаць з усяе дзейнасьці Таварыства Беларускае Школы, Таварыства гэтае папала пад уплыў камунізуючага „Змаганьня", але Стэцкевіч, Шырма і Пяткевіч складалі ў лоне Т-ва групу, якая выступала проці гэтых уплываў. Віну-ж Саковіча, Цэраха і Скуркі адносна да супрацоўніцтва з камуністычнай партыяй Суд прызнаў даказанай.

Сярод сьведкаў, пакліканых на суд, быў паміж іншымі і Тарашкевіч, якога прывялі з Лукішак.

Пракурор заявіў, што прыгаворам гэтым ён нездаволены і падасьць апэляцыю.

**Справа Тарашкевіча ў Апэляцыйным Судзе** вызначана на 24 лютага. Бараніць Тарашкевіча мае адв. Заштовт Сукеннiцкая (пам. адв. Петрусэвіча).

**„Чыстка" беларусаў.** Школьныя ўлады віленскага вокругу паведамілі д-ра Грабінскага, што з канцом гэтага месяца ён звальняецца з становішча школьнага лекара Беларускае

---

А вецер песьціць верасьнёвы,
Як бы ізнову шоўк вясны.

Капаюць бульбу яшчэ бабы
Вось там на ўзгорку, пад вярбой.
Пясочак жоўты чэшуць граблі
І падбіраюць грамадой.

Далей падходжу... Пан багаты —
Такі вялізна-пышны двор!
Няма адной вясковай хаты:
Усё муры, як на падбор.

О, колькі выпілі тут працы
На іх прыгоньнікі-дзяды!
Дзядоў — няма, стаяць — палацы
І пастаяць яшчэ гады...

VIII.

А за мурамі сад разлогі,
Наўкола ліпы ў два рады.
І звоняць жоўты сум зьнямогі,
Ліісьцё зрываючы, вятры.

Цікава...
Хто калі на гэтым сьвеці
Так падзяліў цябе, зямля?

Адзін заняў абшар — вёрст дзесяць,
Другому—легчы дзе няма...

Міхась! — Ды што гэта паможа,
Што ты бунтуеш і крычыш?
Вось крыж дубовы ўры дарозе,
На ім — Хрыстос, і Ён — маўчыць...

І толькі смутны, смутны вочы
І безнадзейна сумны твар,
І кроў па каплі ціха мочыць
У ног пастаўлены аўтар.

І гэта кроў
І сум сьвяты на твары
Двацаты век ужо жыве,
І сьвет вялікае ахвяры
Не зразумеў дасюль яшчэ.

Крыжоў наставілі—касьцёлаў,
Палацаў пышных і капліц,
Абраз павешалі над сталом,
А дух... загналі да вязьніц!

(Даканчэньне будзе).

Філіі Дзярж. Гімназіі ім. Словацкага ў Вільні. На месца доктара-беларуса, працаваўшага на гэтым становішчы 5 гадоў, мае быць назначаны паляк, д-р Корта, вучыцель гімнастыкі ў той жа гімназіі, які выклікаў ужо агульнае абурэньне ўсіх бацькоў поўным ігнараваньнем элемэнтарных вымогаў гігіены на лекцыях гімнастыкі. Як мы даведаліся, Бацькоўскі Камітэт мае ў гэтай справе падаць мэморыял у Куратoрыюм, дамагаючыся павароту д-ра Грабінскага.

**Спэктакль-вечарыну** ладзіць Гіст. - Літ. гурток Бел. Філіі Дзярж. Гімназіі ім. Ю. Славацкага у суботу дня 11. II. 33 г. у сваім памешканьні (Вострабрамская 9). Адыграна будзе п'еса „Янка Канцавы"; пасьля — скокі. Пачатак у 18 (6) г. Грае духавая аркестра. Уваход па запросінах.

**Вечар трох саюзаў.** Згодна з устанавіўшайся ўжо традыцыяй, у Вільні адбыўся 4-га лютага штогодні канцэрт-баль, зладжаны студэнцкімі саюзамі трох братніх народаў: беларускім, літоўскім і украінскім.

## На правінцыі.

**Да працы!** (М. Смаргоні). Навакол нас пазакладана многа розных польскіх „кулек", якія стараюцца ўцягіваць і нашу беларускую моладзь. Але на ладжаных „кулкамі" розных танцульках моладзь гэтая толькі п'еці спад палы самагонку, а потым рэжацца нажамі. Дык больш сьведамая моладзь пачала думаць аб сваей уласнай беларускай культурнай працы, змагаючыся з самагонам—добрай кніжкай. Гэтак і паўстала ў нас бібліатэка-чытальня ТБА (Таварыства Беларускае Асьветы), у якой маем пакуль што 120 кніжак ды спадзяемся мець больш. Кніжкі бяруць людзі з смаргонскае, войстамскае і жодзішкае гміны. Бяда толькі, што маем мала газэт, бо „Родны Край" дастаем толькі два разы ў месяц. Дык звaрачаемся да ўсіх рэдакцыяў беларускіх з просьбай прысылаць нам свае выданьні на адрас: Poczta Smorgonie, ul. Traugutta 66. Просім такжа ўсіх грамадзян прысылаць нам розныя кніжкі, калі ёсьць у каго непатрэбныя.

Беларусы! Бярэцеся ўсюды да такое ж працы над падняцьцем асьветы нашага народу! Свой.

**Падзяка.** (Пісьмо ў Рэдакцыю). Праз пасрэдніцтва „Роднага Краю" выказываю шчырую падзяку асобам, якія зьбіралі ахвяры на куплю сьвяшчэньніцкага аблачэньня для Беразавецкае царквы. Мёрскага благачыньня, Стаўпецкага павету, а такжа ўсім тым, хто зложыў пасільную ахвяру на гэту мэту. Ахвяры складалі навет і тутэйшыя каталікі. За 27 дзён было сабрана 138 зл., і за гэтыя грошы к Калядам быў куплены поўны камплект ерэйскага аблачэньня.

Рэктар Беразавецкае Філіі
1 лютага 1933 г. Сьвяшч. Алесь Мароз.

---

## Б. С. С. Р.

**Новы нацдэм.** Як падае „Савецкая Беларусь" з 18 I. 33 г., пастановай прэзыдыуму Менгарк-у—КП(б)Б з 3. I. 33 выкінуты з радоў камуністычнай партыі Мікалай Бялуга — за тое, што я на ашуківаў партыю і, прыкрываючыся фальшывым нацыянальным сьцягам у сваёй практычнай працы, паказаў свой палітычны твар нацыянал-дэмакрата, што быў „нэйтральны" ва ўсіх важнейшых падзеях і мерапрыемствах партыі, што вёў у Беларускім Копэрацыйным Саю е выразную контррэвалюцыйную беларускую двайнасьць.—Выкідаючы Бялугу з партыі, „таварышы" пастанавіліся зьняць яго і з усялякай работы, такім чынам прыгаварываючы яго да паўгалоднага жыцьця „лішэнца".

Цікаўная біаграфія гэтага нацдэма. Радзіўся ў 1885 г., беларус па паходжаньні, селянін, па прафэсіі—настаўнік. З 1905 да 1918 г. эсэр, — ад 1918 году да 1920 левы эсэр і ад 1920 сябра камуністычнай партыі, увесь час працуе, як паліт-асьветны работнік, у чырвоной арміі. Дзяўжэйшы час быў віцэпрэзыдэнтам Беларускай Акадэміі Навук. У 1930 г. атрымаў выгавар ад ЦК КП(б)Б за недаволі рашучую барацьбу з беларускім контррэвалюцыйным нацдэмакратызмам. За абарону Бялугі атрымалі выгавар: Сулькіна Верба, Саро кін і Аранчык.

**Працэс 23.** Як падае „Сав. Беларусь" з 8. I.—14. I. 33 г., у вялікай залі Менскага клюбу Харчавікоў ад 8. I. цягнецца працэс 23 работнікаў Белдзяржснабу, абвінавачаных у шкодніцтве і сабатажы. Працэс гэты мае выразны палітычны характар: судзяць не ней іх крымінальных праступнікаў, але ўсе гэтыя 23 падсудных ёсьць сьведамыя беларускія сілы, якія толькі пацягнены да адказнасьці нібы то за шкодніцтва на экономічным фронце. Галоўны абвінавачаны ў гэтай справе—нейкі Таўкач, аб якім карэспандэнт „Сав. Беларусі" піша, пеняючыся са злосьці, усялякія гідоты, называючы яго „апалітычным нацдэмам" і стаўляючы яму, як найвялікшы закід, працу яго ў Адэсе ў характары сакратара консульства Беларускае Народнае Рэспублікі і ў адэскай Беларускай Радзе, якая, як піша той жа карэспандэнт, займалася адпраўкай дэмабілізаваных жаўнераў і афіцэраў на Беларусь для арганізацыі „сваей беларускай арміі" дзеля барацьбы супраць Савецкае ўлады, а такжа супрацоўнічала з украінскай гетманаўшчынай і мела на мэце недапусьціць да арганізацыі БССР у складзе СССР. Цяжкім закідам для Таўкача зьяўляецца таксама яго супрацоўніцтва з Баліцкім, Адамовічам, Някрашэвічам і іншымі лідэрамі нацдэмаўшчыны. „Таўкач — гэта сьведамы шкоднік па сваім палітычным пераконаньням", — канчае сваю „справаздачу" з 8-га дня працэсу „Савецкая Беларусь".

**БАН прад мікрафонам.** Як падае „Сав. Беларусь" з 14. I. 33, Менская Радыё-стан-

цыя будзе праводзіць 9, 10 і 29 кожнага месяца перадачу „Беларуская Акадэмія Навук прад мікрафонам". Масавым сэктарам Акадэміі Навук распрацаваны плян перадачаў і вызначаны адпаведныя дакладчыкі.

**Рэарганізацыя інстытуту Мэханічна-машына-будаўнічага ў Гомелі.** Як падае „Сав. Беларусь" з 13. I. 33 Гомельскі Мэханічна-машына-будаўнічы інстытут будзе зрэарганізаваны; замест ранейшых 4 факультэтаў зараз створаны 2 факультэты: мэталёапрацоўкі і сельска-гаспадарчага машына-будаўніцтва. Факультэт сельска-гаспадарчага машына-будаўніцтва рыхтуе спэцыялістаў па канструкцыі с.-г. машын, а таксама інжэнераў для абслугі машынных станцыяў.

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

**У Сойме.** Сойм закончыў разгляд бюджэту ў камісіі і распачаў разгляд яго ў плевуме. Сойм хутка закончыў агульную дыскусію над бюджэтам у зьвязку з агульнай палітыкай ураду і прыступіў да другога чытаньня, ці падрабязнага разгляду кашторысаў паасобных установаў.

**Новы падатак—на „фундуш працы".** Група дэпутатаў клюбу ББ апрацавала праект „фундушу працы", які павінен замяніць сабой існуючы цяпер „фундуш помачы беспрацоўным". На новы фундуш маюць адлічацца дадаткова па 2 працэнты з заработкаў працаўнікоў фізычных і умысловых. Як адносіцца да праекту ўрад, яшчэ нявядома.

**Новы парадак спагону падаткаў.** Урад падае ў Сойм законапраект аб тым, каб перадаць цэлы рад падаткаў, якія цяпер спаганяюць самаўрады, органам скарбовае ўлады на мясцох. Матывуецца гэтая рэформа тым, што самаўрады лянiва спаганяюць залегласьці дый неакуратна ўносяць у скарбовыя ўстановы спагнаныя грошы.

## За граніцай.

**Зьмена ўраду ў Латвіі.** Нашы браты беларусы, як і ўсе іншыя меншасьці ў Латвіі, могуць трыумфаваць вялікую перамогу: нацыяналістычны ўрад Скуеніекa, праект якога аб ліквідацыі меншасьцёвага сярэдняга школьніцтва праваліўся на пасяджаньні сойму, падаўся ў адстаўку. Урад Скуенека ведамы нашым чытачом, з яговае спробы зачыніць беларускую гімназію ў Дзьвінску, што не ўдалося толькі дзякуючы рашучаму адпору з боку ўсяго беларускага грамадзянства.

Латышскі народ, відаць, у сваей большасьці шануе сваю дэмакратычную канстытуцыю.

**Перамога Гітлера.** У Нямеччыне зусім неспадзявана атрымаў уладу Гітлер, які — у супольцы з Папэнам і Гугенбэргам — зваліў, здавалася, так непахільна ўмацаваўшагася Шлейхэра. Шлейхэр паляцеў таму, што ён хацеў абаперціся ня толькі на арміі ды паўваен ых арганізацыях, але і на рэспубліканскай большасьці нямецкага народу. Шлейхэр лічыўся блізу „найбольш левым з нямецкіх генаралаў".

Сталася гэта так. Спрытна аслабіўшы крайнюю лявіцу падтрыманьнем гітлераўскага руху, ген. Шлейхэр распачаў пасьля таксама аслабляць і сілу крайняе правіцы. Дзеля таго ён пачаў пляновую ліквідацыю гітлераўскае арганізацыі. Але тут ён наткнуўся на тыя сілы, якія стаяць за гітлераўскім рухам і падтрымліваюць яго ня толькі ў мэтах барацьбы з камунізмам, але і ў мэтах б рацьбы з рэспублікай і дэмакратыяй наогул. Хочучы зрабіць гэтым сілам сьмяротны удар, Шлейхэр даў у прэсу сэнсацыйныя рэвэляцыі аб тых шмат-мільёнавых „пазыках на адбудову і разбудову", якіх панахапалі сабе ўсходня-прускія абшарнікі—пад відам „ратаваньня рольніцтва на Усходзе". Сэнсацыя запраўды-ж выклікана была страшэнная, абурэньне сярод грамадзянства—вялізарнае. Але ня меншае абурэньне выклікалі скандальныя рэвэляцыі сярод гэтых самых абшарнікаў проці асобы Шлейхэра.

Трэба ведаць, што гэтыя ўсходня-прускія, „крэсовыя" абшарнікі — гэта-ж найбліжэйшыя клясова і палітычна акружэньне самога Гіндэнбурга, якога яны спрытна зрабілі сябрам сваей клясы, адзяраваўшы яму значнае пасьвілачнае ягоньне дадзенае зямельнае маемасьці. Такім чынам сваім крокам Шлейхэр адразу страціў „высокі давер" прэз. Гіндэнбурга і яго сына, палкоўніка, які фактычна кіруе воляй старога бацькі. А ў выніку гэтага „невасцярожнага кроку" ня толькі паляцеў сам Шлейхэр, але яговыя ворагі справа ўсе аб'ядналіся, апанавалі прэзыдэнта Гіндэнбурга і стварылі новы ўрад крайняе правіцы, „якога, паводле рэакцыйнасьці, ня было ніколі яшчэ ў Нямеччыне", як піша дэмакратычная нямецкая прэса.

Гітлер, Папэн і Гугенбэрг, гэтая „найчарнейшая тройка", апанавалі ўладу ў Нямеччыне і ня выпусьцяць ужо яе з рук без рэвалюцыі, на якую разылічаць у Нямеччыне цяпер зусім немагчыма. „Тройка" падзяліла між сабою ўладу гэтак: Гітлер атрымаў становішча канцлера, Папэн — прэм'ера Прусіі, а Гугенбэрг — гаспадарчую ўладу ў Нямеччыне.

Ніякае праграмы, ніякае творчае думкі гэты ўрад ня мае, апроч адзінае бліжэйшае мэты—умацаваньня сваей улады ў Нямеччыне шляхам выкіданьня з дзяржаўнага апарату ўсіх сваіх супрацоўнікаў, каб падрыхтаваць гэтак адбудову манархіі.

Урад Гітлера распачаў ужо рашучую барацьбу з лявіцай, дый ня толькі з камуністычнай, але і соцыял-дэмакратыяй, якая ёсьць найбольш паважнай, найбольш дзяр-

шаўна-адказнай партыяй сучаснае Нямеччыны і да нядаўна кіравала блізу ўсім дзяржаўным жыцьцём пасьля вайны. Гітлер заявіў цяпер, што крыві ня толькі камуністаў, але і соцыялістаў, навет дэмакратаў нагул ён шкадаваць ня будзе. І запраўды ў Нямеччыне кроў палілася ізноў ракой.

**Новыя выбары ў Нямеччыне.** Гітлер распусьціў парлямант і ладзіць новыя выбары, прычым яго партыйныя таварышы зусім не ўкрываюць, што маюць рабіць „румынскія выбары“. Распушчаны таксама, ня гледзячы на законны апор з боку самае палаты, і прускі сойм. Адначасна пасыпаўся рад дэкрэтаў прэзыдэнта, якія маюць мэтай драконскімі мерамі „ахаваць аўтарытэт ураду“, які, як публічна заявіў Шлейхэр, не карыстаецца ніякай павагай у велізарнай большасьці нямецкага народу. Выданы дэкрэт, прыкладам, „аб ахове нямецкага народу“, які пазбаўляе „ахоўваны народ“ яго прызнаных канстытуцыяй правоў на свабоду слова, на свабоду прэсы, сабраньняў, саюзаў і т. д.

**Камісар Папэн — замест ураду Прусіі.** Папэн ня толькі назначаны віцэ-прэм'ерам Нямеччыны, але і камісарам Прусіі замест усяго яе ўраду, які „звольнены“ цалком.

**Колькі вінавата Эўропа Амэрыцы?** Дзяржаўны Дэпартамэнт Паўночна-Амэрык. Штатаў апублікаваў сьпісак даўгоў эўрапэйскіх дзяржаваў, якія разам складаюць „круглую“ суму 11 мільярдаў 795 мільёнаў даляраў.

**Японцы распачалі новае наступленьне.** Японскі ваенны міністар заявіў, што Японія пастанавіла распачаць новы паход „проці бандыцкіх атрадаў“, згуртаваных у паўночным Кітаі. Гэтыя „бандыцкія атрады“ — ня што іншае, як 180-тысячная армія, якую выставіў тутака кітайскі ўрад. Атрымаўшы вестку аб наступленьні японскіх войск, Чанг-Сю-Лянг заявіў каротка: „Мы гатовы“. Нажаль, Чанг-Кай-Шэк заняты цяпер... вайной з паўстаўшымі ізноў проці яго ўлады „чырвонымі арміямі“ паўдня. Выглядае, што камуністы як-быццам хочуць дабіць Кітай — у змове з Японіяй.

## Як перасылаць грошы за газэту.

Гэтым паведамляем нашых падпісчыкаў, што яны могуць перасылаць належныя нам грошы за газэту гэтакім спосабам: 1) купіць на пошце блянк для пераказу на рахунак П. К. О., які каштуе толькі 5 гр., 2) запоўніць яго, як належа, упісаўшы адрас беларускае кнігарні Ул. Манкевіча (Księgarnia Białoruska Wł. Mankiewicza, Wilno, Ostrobramska 1) і нумар конта 61991, 3) на адвароце часткі блянку „dla adresata“ напісаць: „За газэту“ — і 4) бясплатна здаць разам з блянкам пасыланую суму на пошце.

# Што трэба кожнаму ведаць.

**Запасы збожжа і пашы, якія ня могуць быць забраны за падатковыя залегласьці.**

Скарбовыя ўлады апублікавалі правілы, высьвятляючыя дакладна, якія колькасьці збожжа і пашы павінны пакідацца падатніку на пракорм людзей і жывёлы — пры спагоне з яго праз сэквэстратараў падатковых залегласьцяў. Лічбы паказаны ў кілёграмах і аблічаны на год — на кожную жывёліну:

1. для рабочага каня і жарабяці старэй 2 гадоў — збожжа 300 кл., сена — 2.000 кл.
2. для жарабяці да 2 гадоў — збожжа 500, сена 1.000 кл.
3. для скаціны старэй 2 гадоў — збожжа 200, сена 1.000 кл.
4. для цяляці да 2 гадоў — збожжа 100, сена 300 і бульбы 400 кл.
5. на кожную авечку — сена 300 кл.
6. на сьвіньню кормную — збожжа 300 і бульбы 1.000 кл.
7. на сьвіньню надворную — збожжа 100, бульбы 500 кл.
8. на кожную куру ці інш. дамовую птушку — збожжа 16, бульбы 32.

Салома, кармавыя буракі, бручка і морква забірацца ня будуць наагул. Калі нехапае сена, недабор яго пакрываецца аўсом і бульбай, лічачы 1 к. аўса за 3 кілё сена або 5 к. бульбы.

**На кожнага едака ў хаце гаспадара забясьпечываецца ад забіраньня на падаткі:** збожжа 300 к. (жыта, круп і інш.) і 800 к. бульбы. Насеньне наагул вольнае ад забору.

**На насеньне нятыкальны для сэквэстратара гэткі запас:** на кожны гэктар ворнае зямлі па 200 к. жыта, пшаніцы, ячменю, аўса, гароху, лубіну, бобу, грэчкі — 100 к., лёну — 80, сэрадэлі — 50, мешанкі на пашу — 250, бульбы — 2.000 кл.

Як сказана, лічбы абымаюць цэлы год — ад жніва да жніва. Дык, калі ў часе падатковай эгзэкуцыі да жніва засталося, прыкладам, паўгоду, лічбы нятыкальнага для сэквэстру запасу таго ці іншага збожжа трэба ўзяць напалову.

Трэба дадаць яшчэ, што ў паасобных выпадках пададзеныя лічбы могуць быць зьменены прысяжнымі экспэртамі (знаўцамі).

## Паштовая скрынка.

Грам. **М. Вершыніну** ў Празе. Запярэчаньне ў справе Бел. Нац. К-ту Рэдакцыя атрымала ў мамэнт здачы нумару на машыну, дык у гэтым нумары зьмясьціць ня здолела, а зьмесьціць у наступным. Прычына прыпазьненьня — тое, што адрас Рэдакцыі быў паданы няправільна.

**На падпіску газэты атрымалі ад гр. гр.** Міколая Лежэня — 2 зл., Міколая Новіка — 1 зл. 50 гр., Язэпа Чурыла — 2 зл. і Рыгора Кадана — 1 зл.

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯЎСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22